





# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець*
*у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №17 (142)**
**СНЕЖАНЬ 2021 ГОДА**


АКТУАЛЬНАЕ

## ТРЭЦІ ГОД ПРАЦЫ ФЕЛЬЧАРА

**Мясцовыя жыхары спяшаюцца на ФАП не столькі за лекамі, колькі за «уколам» добразычлівасці і ўвагі.**

Ранак сельскага ўрача пачынаецца з чаргі пацыентаў, якія прыходзяць у амбулаторыю, каб памераць ціск, атрымаць неабходную дозу таблетак, паставіць кропельніцу, а некаторыя, каб пагаварыць і атрымаць слушную параду. Малады фельчар Вераніка Піманава, якая не так даўно абслугоўвае насельніцтва на ФАПах у Пестуніцы і Заронава, упэўнена, што сакрэт яе прафесіі заключаецца ў добразычлівым падыходзе да кожнага чалавека, не зважаючы на ўзрост і сацыяльны статус.

Стаць медыкам дзяўчына марыла з дзяцінства, таму пасля школы ні кроплі не сумняваючыся паступіла ў Віцебскі дзяржаўны медыцынскі каледж. Хутка прабеглі студэнцкія гады, хацелася хутчэй акунуцца ў прафесію, дапамагаць людзям. З доўгачаканым дыпломам, у якім значылася пасада «Фельчар-акушэр, памочнік урача па амбулаторна-паліклінічнай дапамозе» Вераніка Піманава была накіравана на ФАП у Сушчова, там бліжэй пазнаёмілася з вяскоўцамі і сельскім каларытам. Пасля па патрэбе была пераведзена ў Пестуніцу. Сёння апантаны сваёй справай урач паспявае абслугоўваць насельніцтва двух вёсак, паміж якімі 8 кіламетраў: панядзелак, серада, чацвер — у Пестуніцы, аўторак і пятніца — у Заронава. У любое надвор'е з медыцынскім чамаданчыкам Піманава крочыць на ФАП, каб выслухаць і дапамагчы маленькім дзеткам і іх бацькам, пажылым бабулям і дзядулям.

Вераніка Ігараўна прымала ўдзел у праекце Чырвонага Крыжа «Вакцынацыя супраць COVID: пачатковы этап», разам з валанцёрамі выязджала ў аддаленыя вёскі сельсавета па заяўках людзей пажылога ўзросту, каб зрабіць прышчэпку кожнаму, хто хоча зберагчы сваё здароўе. Нягледзячы на цяжкасці працы з насельніцтвам, запалены яшчэ ў каледжы агеньчык натхнення і сёння не згасае ў вачах доктара.

— Я лічу, што галоўнае ў маёй прафесіі — быць чалавечным, адносіцца да кожнага пацыента аднолькава, імкнучыся па магчымасці зрабіць усё для паляпшэння яго стану. І, канешне, сумленна прытрымлівацца клятвы Гіпакрата, — адзначыла фельчар.

У вольны час доктар любіць ставіць эксперыменты на кухні, прыдумваць новыя рэцэпты і ствараць кулінарныя вынаходніцтвы. Так бывае толькі два дні на тыдзень, а ранніми панядзелкам яна зноў апранае свой белы халат і прымае бясконцую чаргу жадаючых атрымаць параду, лекі і зарад добрага настрою.

**Аляксандра ГВОЗДЗЕВА**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

ДАПАМОГА

## «ВАША ДАПАМОГА» Ў ВІЦЕБСКІМ РАЁНЕ

**Дабрачынная кампанія Беларускага Чырвонага Крыжа «Ваша дапамога» накіравана на мабілізацыю гуманітарнага патэнцыялу грамадства і падтрымку валанцёрскіх ініцыятыў па паляпшэнню якасці жыцця тых, хто мае патрэбу ў дапамозе.**

У межах кампаніі за два месяцы Віцебскай раённай арганізацыяй Чырвонага Крыжа праведзена звыш дзясятка мерапрыемстваў, разнастайных па мэтаваму зместу, накіраванасці і формах правядзення з улікам патрабаванняў па недапушчэнню распаўсюджвання каронавіруснай інфекцыі. Старшыня арганізацыі Тацццяна Верамей у якасці партнёраў у правядзенні кампаніі з удзячнасцю называе аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама, аддзел па адукацыі, Тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, ААТ «Вітрайбыт», філіял № 7 — паліклініку № 7 Віцебскай гарадской цэнтральнай паліклінікі.

Стартавала кампанія з мерапрыемстваў да Дня пажылых людзей. Разам з раённым саветам ветэранаў былі арганізаваны святочныя пасядзелкі з членамі

**Чытайце сайт Віцебскага раёна:**
**http://vicebskreg.by**

ініцыятыўнай групы «Дабрабыт» аг. Ноўка. На сустрэчу за круглым сталом запрасілі супрацоўнікаў СК «Ураджай» і маладых валанцёраў аграгарадка. Размову вялі пра ўдзел у праекце «Актыўнае даўгалецце», прапаганду сярод насельніцтва здаровага ладу жыцця, абменьваліся сакрэтамі добрага настрою ва ўмовах самаізаляцыі па прычыне каронавіруснай інфекцыі. Спецыялісты далі ўдзельнікам сустрэчы майстар-клас па стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, правялі спаборніцтвы па дартсу. Дабавілі пазітыву вясёлыя хвілінкі рухальнай актыўнасці. Дарэчы, валанцёры ІГ «Дабрабыт» вырабілі 150 марлевых павязак для асоб без пэўнага месца жыхарства і тых, хто вярнуўся з месц пазбаўлення волі.

3 кастрычніка ў Віцебскім раёне рэалізуецца праект «Вакцынацыя супраць COVID-19 (пачатковы этап)», арганізацыя Чырвонага Крыжа садзейнічае імунізацыі пажылых грамадзян і інвалідаў праз дастаўку іх да месца вакцынацыі на базе медустаноў ці арганізоўвае прышчэпку па месцы жахарства. За перыяд акцыі вакцыніраваны 189 чалавек, з іх 162 атрымалі дзве дозы вакцыны. На аплату транспартных паслуг, забеспячэнне валанцёраў сродкамі індывідуальнай ахловы, іх страхаванне было накіравана каля 2-х тысяч рублёў.

Адчувальная падтрымка аказана шматдзетным сем'ям, інвалідам, сіротам — выдадзена 29 сертыфікатаў кожны вартасцю 135 рублёў на пакупку прадуктаў харчавання і прадметаў першай неабходнасці; 60 кашуль нямецкай фірмы «HUGO BOSS»; тавары ад ТАА «ЭлСи Вайкики Ритейл Бел».

Па медыцынскіх паказаннях 6 чалавек атрымалі ў карыстанне сродкі рэабілітацыі.

Па хадайніцтву райарганізацыі Чырвонага Крыжа ўдзел у дабрачыннай кампаніі прынялі прадпрыемствы і ўстановы раёна і Віцебска. У прыватнасці, ААТ «Вітрайбыт» забяспечыла пасцельнай бялізнай сям'ю з Ноўкі, а прафсаюзны камітэт ААТ «Сцяг індустрыялізацыі» перадаў 70 экземпляраў мастацкай літаратуры для аддзялення дзённага знаходжання пажылых грамадзян г. п. Янавічы.

Установы адукацыі раёна пералічылі на рахунак арганізацыі 1251 руб. дабрачынных ахвяраванняў.

**Ніна СТАЛЯРЭНКА**
**«Жыццё Прыдзвіння»**

СЭРВІС

## ПЕРВАЯ ЭЛЕКТРОЗАРЯДНАЯ СТАНЦИЯ

**Удобное расположение на Вороновском кольце (выезд на Смоленск) и качественное оборудование от ОАО «Витязь» в скором времени помогут владельцам электромобилей.**

Разместится первая розетка для «зеленых» авто в Витебском районе на территории ООО «ДжиМоторс», являющегося официальным дилером СЗАО «Белджи» по продаже и сервисному обслуживанию автомобилей марки GEELY на территории г. Витебска и Витебской области.

Планируется, что воспользоваться новой электрозарядной станцией смогут не только жители нашего района, но и проезжающие владельцы электрокаров.

Проект в данный момент проходит стадию согласования, подробности установки станции председатель райисполкома Геннадий Сабынич, его заместитель Снежана Семенова, директор ООО «ДжиМоторс» Юлия Алексеенко обсудили с генеральным директором ОАО «Витязь» Геннадием Азаровым.

Первый опытный образец электрозарядной станции производства ОАО «Витязь» под наименованием ЕС-301 появился четыре года назад в областном центре на проспекте Строителей на заводской парковке рядом с торговым домом открытого акционерного общества. Разработка ОАО «Витязь» рассчитана для установки в городской инфраструктуре: в паркингах, на стоянках гипермаркетов и бизнес-центров, чтобы владельцы, оставляя транспорт на несколько часов, могли не только решить личные дела, но и подзарядить свое авто.

«За электромобилями — будущее. Если в 2020 году в Беларуси насчитывалось всего 800 «зеленых» авто, то сегодня их количество достигло 5000, и это не предел, поэтому наша продукция востребована», — отметил Геннадий Азаров.

**Елена МУРАВЬЕВА**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

СУСТРЭЧЫ

## ВЫЕЗДНОЙ ПРИЕМ ГРАЖДАН

**Председатель Витебского райисполкома Геннадий Сабынич провел выездной прием граждан.**

Жительница агрогородка Бабиничи Светлана Геннадьевна попросила решить вопрос освещения тротуарной дорожки, которая ведет к остановке до Рубовского кольца, ведь в осенне-зимнее время там очень темно и небезопасно. Ольга Ивановна, проживающая в этом же населенном пункте по улице Калинина, акцентировала внимание присутствующих на состоянии улично-дорожной сети. Женщина отметила, что часть дороги здесь заасфальтирована, а часть подсыпана щебнем, зимой ее обрабатывают противогололедной смесью, но все равно очень скользко. «Хочется

***(працяг на стар. 2)***

СУСТРЭЧЫ

*(пачатак на стр. 1)*

отметить, что нынешней зимой коммунальщики отлично справляются с расчисткой дорог, своевременно убирают и мусор из контейнеров. Что касается торговли, то в агрогородке работают четыре магазина, в каждом — ассортимент богатый, есть все, что нужно, одним словом, нас все устраивает», — сказала Ольга Ивановна.

С наболевшим вопросом обратилась к председателю райисполкома Светлана Егоровна. Женщина озвучила проблему, которая волнует не только ее, но и многих жителей Бабинич и прилегающих деревень: «Каждый день мы водим своих детей в школу по дороге по улице Центральная (речь идет о здании старой школы), тротуар очень узкий, если едут машины навстречу друг другу, пешеходам приходится сходить на обочину, в самую канаву, что небезопасно. Просим как-то разрешить вопрос, ведь в час-пик здесь может собираться до пятнадцати машин одновременно: кто-то разворачивается, кто-то высаживает детей…»

С ситуацией было решено разобраться, выехав на место. Осмотрев дорогу, ведущую к школе, старший госавтоинспектор ОГАИ Витебского РОВД Илья Войтов предложил ограничить движение транспортных средств на данном участке с помощью шлагбаума с запирающимся устройством.

Все вопросы, поступившие во время приема граждан, глава района пообещал держать на контроле.

В этот же день в Бабиничском сельисполкоме Витебского района прошла встреча информационно-пропагандистской группы с населением.

Во время встречи был поднят ряд важных вопросов. Ключевой темой стало обсуждение предстоящего референдума.

В заинтересованном диалоге приняли участие председатель райисполкома Геннадий Сабынич, прокурор Витебского района Игорь Лисовский, председатель Бабиничского сельисполкома Валентина Ворона.

**Елена ЧАПЛЕВА**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

СПОРТ

# ТРЕНЕР ПОДВЕЛ ИТОГИ

**По итогам чемпионата страны по футболу ФК «Витебск» занял седьмое место. С одной стороны, это лучший результат команды за последние годы, с другой — первенство дружина областного центра завершила серией из 5 поражений подряд. Итоги ее выступления мы подводим вместе с главным тренером клуба Евгением Чернухиным.**

***— Как оцениваете сезон?***

— Доволен тем, что после оттока футболистов в прошлое межсезонье удалось стабилизировать игру команды, показать временами качественный футбол. Получилось развить некоторых игроков, отдельные даже вышли на более высокий уровень. Рад, что в паузе между первым и вторым кругами, когда урезали финансирование команды, удалось удержать почти весь состав, и выполнить поставленную задачу — быть в семерке лучших по итогам сезона. Неудовлетворенность вызывает не такой резкий прогресс игры некоторых футболистов. Ну, и хотелось бы выше по турнирной таблице.

***— Проанализируйте, пожалуйста, игру команду по линиям.***

— Доволен вратарями. У нас было два равноценных голкипера, которые конкурировали между собой. Они сыграли достаточно матчей на ноль, и никогда не возникало вопроса, кого поставить в ворота. В защите, увы, не было конкуренции. Играли все, кто заявлен на эту позицию. Единственное, в оборону могли добавить Глеба Рассадкина. Он играл на позиции нападающего, флангового полузащитника и крайнего защитника. В средней линии у нас была стабильность. Результативно сыграл Вандерсон Мело, лучший сезон в карьере провел Александр Ксенофонтов. Но в целом, полузащитникам средняя оценка. В нападении выделялся Руслан Теверов, который провел очень хороший сезон. Причем во втором круге он прибавил. Надеюсь, если Руслан останется в нашей команде, то в следующем сезоне сыграет еще лучше. И станет более зрелым футболистом. Отдельно остановлюсь на молодых игроках. Они получали достаточно игрового времени. К сожалению, молодые футболисты не так сработали, как хотелось бы. От них ожидали большего прогресса.

***— Чем была вызвана серия поражений на финише?***

— Мы в этих матчах не выступали в оптимальном составе. Их пропускали от двух до семи игроков основного состава. Причины наших поражений травмы, болезни, дисквалификации. В первом круге у нас наряду со стартовым составом, на подмену было два равноценных футболиста. Летом клуб продал Диего, после чего начались проблемы с обоймой. Чтобы качественно проводить вторые части чемпионатов, требовалось усиление состава, а не ослабление, как у нас. Поэтому хорошо, что мы смогли пройти удачно стартовую часть второго круга, добившись итогового седьмого места. Впрочем, за неудачную концовку я не снимаю вины с себя и тренерского штаба.

***— Какие в межсезонье планируются изменения в составе?***

— В прошлогоднем составе мы не останемся однозначно. Но фамилии ушедших-пришедших еще назвать не готов. Пока открыто трансферное окно, любого футболиста могут выкупить. Есть спрос на наших спортсменов: те, кто провел хороший сезон, могут уйти на повышение в более сильные клубы. Пригласить мы хотели бы игроков-лидеров своих команд, неважно в какой лиге эти спортсмены играли, пусть даже рангом ниже. Или же — футболистов из клубов белорусского первенства, находившихся выше нас в турнирной таблице, чтобы они могли реально усилить нашу дружину. Идут переговоры, в межсезонье футболисты всегда выжидают, выбирая наилучшие предложения.

***— Какие тренировочные планы у «Витебска» на межсезонье?***

— Команда выходит из отпуска 10 января. Планируем тренироваться в Витебске: готовиться в манеже, тренажерном зале и на улице. Будем играть товарищеские матчи. Хотелось бы пригласить соперников в наш город, но все будет зависеть от их согласия. Международные товарищеские встречи вряд ли состоятся.

***— Для вас это будет уже вторая предсезонная работа в качестве главного тренера команды высшей лиги. Планируете строить подготовку к сезону по прошлогодним конспектам или что-то будете менять?***

— Будет отталкиваться от игроков, которые придут в команду. Станем строить подготовку с акцентом, чтобы дружина действовала в атакующей манере. Вопрос только в системе игры: количестве игроков обороны, полузащиты, нападения.

**ЕВГЕНИЙ КАРПАС**
**«Витебские вести»**

ЗДАРЭННІ

# ПРОПАЖА, СПАСЕНИЕ И СМЕРТЬ НА ДОРОГЕ

**Витебский РОСК разыскивает жительницу д. Лужесно Витебского района.**

Витебским районным отделом Следственного комитета расследуется уголовное дело по факту безвестного исчезновения жительницы д. Лужесно.

По данным следствия, Куксёнок Вера Романовна, 11.12.2001 года рождения, уроженка г. Москва Российской Федерации, гражданка Республики Беларусь, проживающая по адресу: Витебский район, д. Лужесно, ул. Лынькова, в октябре 2021 года ушла из дома и до настоящего времени ее местонахождение не известно.

По факту безвестного исчезновения Куксёнок В. Р. возбуждено уголовное дело.

С целью установления обстоятельств безвестного исчезновения Куксёнок В. Р. следователи обращаются с просьбой к гражданам, которые стали свидетелями произошедшего или располагают какой-либо информацией о месте нахождения Куксёнок В. Р., сообщить об этом по телефону оперативно-дежурной службы УСК по Витебской области +375(33)399-80-44 (круглосуточно).

**Спасатели помогли лосенку выбраться из полыньи**

В Витебском районе спасатели пришли на помощь провалившемуся на озере под лед лосенку. Об этом сообщили в областном управлении МЧС.

18 декабря в 10.24 спасателям от очевидца поступило сообщение, что на озере Добрино вблизи деревни Осиновка тонет лосенок. К месту ЧП выехали работники пожарного аварийно-спасательного поста №13 Витебского районного отдела по ЧС и пожарного аварийно-спасательного отряда "Витязь".

"Прибыв к месту вызова, мы увидели, что на озере на расстоянии около 200 м от берега провалился под лед лосенок и самостоятельно выбраться не может, - рассказали спасатели. - Мы по льду подошли к животному, обвязали веревкой заднюю часть его тела и аккуратно достали лосенка из полыньи на поверхность льда. Далее потихоньку вытянули его на берег". Лосенок чувствует себя хорошо, после небольшого отдыха самостоятельно убежал в лес.

**В Витебском районе при обгоне Opel врезался во встречный автомобиль**

ДТП случилось утром 22 декабря на 104-м км автодороги М8 (граница РФ -- граница Украины). По предварительной информации, при обгоне фуры Opel Corsa выехал на полосу встречного движения, где и произошло столкновение с автомобилем Mazda под управлением 61-летнего минчанина.

В результате ДТП 33-летняя женщина, водитель Opel, скончалась на месте. Водитель и женщина-пассажир Mazda госпитализированы.

На месте работали следственно-оперативная группа, ГАИ, МЧС и медики.

ГАИ просит водителей быть внимательными при обгонах: правильно оценивать ситуацию и оперативно осуществлять маневр.

**Ян Сведка**

КРЫМІНАЛ

# ПРОДАЛ НЕ СВОЁ АВТО

**Ранее судимый житель Витебского района, навещая приятеля в спальном районе Витебска, заприметил поврежденный огнем автомобиль «Опель-Астра», который впоследствии продал.**

Об этом сообщили в УВД Витебского облисполкома.

Нашел в интернете объявление о покупке транспортного средства в любом состоянии. Партнеры по купле-продаже встретились возле машины. Продавец рассказал, что это его машина, однако документов у него с собой нет.

Покупатель поверил собеседнику и отдал ему 350 рублей, после чего вызвал эвакуатор и увез авто. Исчезновение транспортного средства настоящий владелец авто заметил много позже.

В отношении злоумышленника возбуждено уголовное дело.

**А. Смаленскі**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звярта́йцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

СВЯТА

# «ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ! СЛАВІМ ЯГО!»

**Перад святочным днём Божага Нараджэння Віцебскі біскуп па традыцыі падрыхтаваў свой віншавальны зварот да вернікаў.**



Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, людзі добрай волі!

Надзея займае адметнае месца сярод духоўных рысаў чалавека. Бо пакуль яна існуе, мы гатовыя пераносіць нават вялікія выпрабаванні. Таму так важна, каб яна была моцнай. Асабліва зараз, калі свет усё яшчэ стаіць перад выклікам пандэміі, калі між краінамі трывае напружанасць, а спакой застаецца ўсё яшчэ толькі нашай марай.

Сярод гэтага смутку і няпэўнасці зноў чутны воклік: «Хрыстос нарадзіўся! Славім Яго!» Гэта не проста даніна рэлігійнай традыцыі, афарбаванай святочнай дэкарацыяй, ці спроба забыцца на нейкі час, акунуўшыся ў святочную мітусню. Гэта — вызнанне праўды, з якой бярэ пачатак тая самая надзея, якая трымае нас пры жыцці. Больш за тое, надзея, якая выводзіць нас нават па-за межы зямнога жыцця! Бо «...хто верыць у Мяне, мае жыццё вечнае»! (Ян 6,47).

Наша культура і цывілізацыя моцна закаранёныя ў хрысціянскіх каштоўнасцях. Усё тое лепшае, што сёння маем, так ці інакш звязана з адкрытай нам у Святым Пісанні Божай Мудрасцю, якая знайшла сваё найвышэйшае праяўленне ва ўцелаўлёным Божым Слове. Слове, якое «...сталася целам і пасялілася між намі» (Ян 1;14).

Менавіта Божая Мудрасць заўсёды ратавала чалавека, калі ён быў ёй паслухмяны. І наадварот, клопаты і праблемы ўзнікалі тады, калі гэтая Мудрасць была адкінутай і забытай. Такога досведу мы маем ужо дастаткова.

Паспрабуйма наноў прыняць уцелаўлёнае Слова ў сваё жыццё! Тым больш, што гэтае Слова не патрабуе асаблівага месца і не прэтэндуе на шмат нашага часу. Каб нарадзіцца сярод людзей, Яно не пагардзіла нават стайняй для жывёлаў і было шчаслівым ад хвіліннай увагі простых пастушкоў. Паспрабуйма наноў адкрыць для сябе Божую Мудрасць! Няхай яе стане крыху больш у нашым жыцці!

Нованароджаны Збаўца няхай агорне сваёй ласкай кожнага з вас, усю нашу Краіну і ўвесь свет, каб мы, прызнаўшы над сабой уладу Яго Міласэрнай любові, станавіліся здольнымі самі дзяліцца гэтай любоўю з іншымі!

Здароўя, радасці, спакою і Божага бласлаўлення на ўвесь надыходны 2022 год!

Са Святам!

**Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**
**catholicnews.by**

САНКЦЫІ

# «ГАЛОЎНАЕ — ЛІКВІДАВАЦЬ ПРЫЧЫНУ САНКЦЫЙ...»

**Старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук заклікае афіцыйныя прафсаюзы скіраваць свае высілкі на тое, каб ліквідаваць найперш прычыну з'яўлення санкцый, а потым патрабаваць іх адмены, піша Народная Воля.**

У выніку ўвядзення Еўрасаюзам і ЗША эканамічных санкцый супраць беларускіх кампаній пад абмежаваннямі апынуліся 22 прадпрыемствы. У санкцыйным спісе чатыры прамысловыя прадпрыемствы, якія маюць стратэгічнае значэнне для эканомікі: «Гродна Азот», яго філіял «Завод Хімвалакно», «Беларуснафта» і «Белшына». Адмыслоўцы схільны лічыць, што з пачатку свайго паўнацэннага дзеяння санкцыі істотна паўплываюць на беларускую эканоміку.

Прафсаюзы Беларусі ў сваю чаргу пачалі збор подпісаў пад адкрытым лістом у адрас Міжнароднай арганізацыі працы, рабочых і наймальнікаў іншых краін. Ліст змешчаны ў інтэрнэце. Нагадаем: у ім гаворыцца аб тым, што еўрапейскія чыноўнікі не маюць права абмяжоўваць правы работнікаў іншых краін. Увядзенне падобных мер у дачыненні да беларускіх прадпрыемстваў, на думку складальнікаў ліста, не з'яўляецца выказваннем патрабаванняў працоўных. Дарэчы, у змешчаным у сеціве закліку афіцыйных прафсаюзаў да грамадзян, каб яны ставілі свае подпісы пад лістом, удакладняецца, што гэта справа абсалютна добраахвотная. І нават даюцца адрасы, куды звяртацца, калі прымушаюць ставіць подпіс альбо, наадварот, не ставіць.

«Народная Воля» звярнулася да старшыні Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука з просьбай пракаментаваць сітуацыю.

Паводле слоў спадара Ярашука, прафсаюзы нідзе ў свеце не заклікаюць да санкцый, паколькі гэта супярэчыць іх мэтам. А таму дзіўным найперш з'яўляецца адрасат, да якога звяртаюцца беларускія афіцыйныя прафсаюзы. На яго думку, больш істотна тое, як ліквідаваць прычыну ўвядзення санкцый супраць беларускіх прадпрыемстваў.

— А прычына добра вядомая — гэта рэпрэсіі супраць рабочых, захоп самалёта з грамадзянамі Еўрасаюза, гэта міграцыйныя атакі на суседзяў з Еўрасаюза, — удакладняе Ярашук. — І зразумела, што нельга адмовіць і краінам Еўрасаюза ў адстойванні сваіх граніц і ўласнай бяспекі.

Аляксандр Ярашук трымаецца думкі, што ўлады павінны неадкладна пачаць дыялог з апанентамі, якім бы цяжкім ён ні быў, і сумесна дамаўляцца, як выходзіць з гэтага вострага палітычнага і сацыяльна-эканамічнага крызісу.

— Калі гэта будзе адбывацца, то можна спадзявацца на тое, што і мы будзем пачуты іншымі краінамі, якія ўвялі санкцыі, — пераканаы Ярашук. — Выхад у гэтай сітуацыі адзіны — нацыянальны дыялог. Іншага папросту няма.

Што датычыцца таго, як збіраюцца подпісы, кіраўнік Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў кажа, што ў дадзенай сітуацыі кожны чалавек павінен сам вырашаць, як яму паступаць.

— Да нас калі і звяртаюцца людзі са скаргамі на прымус, то толькі з умовай, каб ні ў якім разе не называлі прозвішча, — канстатуе Ярашук. — Але калі ніхто не будзе называць прозвішча, то ніхто і рабіць нічога не будзе, бо ад імя каго тады рабіць?

На жаль, паводле слоў Ярашука, людзі ў дадзенай сітуацыі працягваюць баяцца, хаця праз гэту боязь могуць згубіць усё ў сваім жыцці.

**"Народная воля"**

ПРЫСУДЫ

# УЛАДЫ ЦЯПЕР ЖЫВУЦЬ У АДЧУВАННІ ТАГО, ШТО ІХ ЗНОЎ ПАСПРАБУЮЦЬ РАЗГОЙДВАЦЬ

**Адыходзячы тыдзень запомніцца жорсткімі прысудамі па «справе Ціханоўскага», а таксама вынікам працэсу над блогерам Эдуардам Пальчысам, якога асудзілі на 13 гадоў калоніі. Па просьбе «Филина» палітычны аглядальнік Арцём Шрайбман ацаніў рэакцыю на вердыкты судоў, а таксама іх магчымыя наступствы.**

На думку эксперта, выносячы такія суровыя прысуды, улады маглі пераследаваць некалькі мэтаў:

— Гэта помста канкрэтна гэтым людзям, Ціханоўскаму ў прыватнасці. Таму што ўлада лічыць, што ён і яго каманда першымі запусцілі не толькі хвалю пратэстаў, але і працэс дэсакралізацыі Лукашэнкі.

Яшчэ адна мэта — прэвентыўная, лічыць Арцём Шрайбман. Запалохванне грамадства ў цэлым, запалохванне блогераў, бо большасць з асуджаных — блогеры. Застрашванне, каб такое не паўтарылася зноў.

— Бо ўлады цяпер жывуць у адчуванні таго, што іх зноў паспрабуюць разгойдваць.

Акрамя таго, гэта можа быць сігналам, пасланым сваім прыхільнікам:

— Глядзіце, якія тэрміны мы даем. Мы ўпэўненыя, што мы будзем правіць менавіта столькі. Як мінімум 10-15 гадоў мы будзем на гэтым месцы.

Гаворачы аб рэакцыі грамадства на апошнія навіны з судоў, эксперт адзначыў:

— Мне здаецца, што ўсе больш-менш прывыклі да жорсткіх тэрмінаў палітычным лідарам і ключавым блогерам. Не ўпэўнены, што гэта новая якасць шоку для беларусаў, але для людзей, якія сімпатызуюць пратэстам, гэта былі вельмі дэпрэсіўныя дні.

Арцём Шрайбман нагадаў, што пра прысуд Ціханоўскаму выказаліся не толькі на Захадзе, але і ў Расіі, у тым ліку і прапаганда.

Палітычны аглядальнік не ўпэўнены, што прысуды па «справе Ціханоўскага», а таксама 13-гадовы тэрмін Пальчысу стануць прычынай для ўвядзення санкцый:

— Санкцыі зараз выклікаюцца дзеяннямі Мінска на знешняй арэне, дэстабілізуючымі крокамі. Правы чалавека ідуць у санкцыйных рэзалюцыях хутчэй прычэпамі. Спецыяльна з-за прысудаў санкцыі ніхто не ўводзіць. Можа быць, гэтая практыка зменіцца ў будучыні, але пакуль яна такая.

Як гэтыя суды могуць паўплываць на беларускае грамадства?

— Я не думаю, што гэта акажа нейкі новы ўплыў на беларусаў за межамі таго, што і так робяць рэпрэсіі з грамадствам. Страх — гэта падаўленне волі, апатыя. Яны наступалі і да гэтага прысуду, і працягнуць наступаць і далей, калі ўлады працягнуць рабіць тое, што робяць.

Не думаю, што хтосьці памяняе свой пункт гледжання пасля такога хай і брутальнага прысуду.

**"Новы Час"**

ВІЦЕБШЧЫНА

# ПОЧЕМУ ЛУКАШЕНКО СНЯЛ С ДОЛЖНОСТИ ШЕРСТНЁВА

**Об этом Лукашенко заявил сегодня во время представления Александра Субботина новым председателем Витебского облисполкома. Он подчеркнул, что области, откровенно говоря, хвалиться особо нечем.**

— За последние семь лет валовой региональный продукт сократился более чем на восемь процентов. Это много! В текущем году регион единственный, где продолжает снижаться ВРП в основном за счет строительства и сельского хозяйства. У нас просели эти отрасли, откровенно говоря, практически во всех областях. В последние годы ухудшаются многие показатели развития села. Снижены посевные площади и объемы сбора сельскохозяйственных культур. Сократилось поголовье крупного рогатого скота, производство молока и яиц. Причины — низкая организация труда, несоблюдение агротехнических сроков и регламентов, — отметил Александр Лукашенко. — Исполнительская дисциплина ни к черту! И не надо говорить, что у вас не хватает кадров. Что есть, с тем и работаете.

— Работа агропромышленных

*(працяг на стар. 4)*

ВІЦЕБШЧЫНА

*(пачатак на стар. 3)*

объединений остается убыточной. Без государственной поддержки убыточны 72 процента сельскохозяйственных организаций области. Очевидно, что региону нужна перезагрузка. Если хотите — серьезная встряска. И у меня это не заржавеет! Сделайте, пожалуйста, за зиму соответствующие выводы. Поэтому мной принято решение о назначении на Витебщину молодого перспективного руководителя, для которого ваш край является родной землей, —Александра Михайловича Субботина.

— Он непосредственно принимал участие в разработке новых подходов к развитию агрокомплекса, созданию объединений. В определенной степени является их соавтором. Уверен, понимает, как все должно быть реализовано на практике. Прежде всего необходимы строжайшая технологическая и исполнительская дисциплина, экономия всех ресурсов. Новый губернатор как человек науки, думаю, это прекрасно понимает.

— Остро нуждается в модернизации материально-техническая база агропромышленного комплекса. Уменьшилось число используемой сельхозтехники: тракторов — на десять процентов, зерноуборочных и прочих комбайнов — на 30 процентов. Поэтому доставайте из-под заборов все, что может передвигаться и работать, и восстанавливайте.

— Ряд формальных показателей в кадровой работе обращают на себя внимание и вызывают тревогу. Только за последние пять лет трижды сменялись руководители в Шумилинском и Оршанском райисполкомах, дважды — в Браславском, Толочинском, Дубровенском и Бешенковичском... Что это за работа? Полтора-два года — и другой руководитель! Александр Михайлович, вам предстоит разобраться в причинах такой ситуации и найти решения, выстроить четко работающую кадровую вертикаль области. Отсутствие системности в работе с кадрами в регионе недопустимо.

**www.sb.by**

ВІНШАВАННЕ

# «МЫ ПАВОДЗІЛІ СЯБЕ ДОБРА Ў АДЫХОДЗЯЧЫМ ГОДЗЕ»

**Былы кандыдат у прэзідэнты Беларусі і палітвязень, якому прысудзілі 14 гадоў калоніі, напярэдадні навагодніх святаў напісаў адмысловы віншавальны ліст.**



— Мне вельмі хацелася, каб прыйшлі нарэшце ў нашу краіну, у нашы сем'і і нашы душы часы, калі ты б чуў у навагодніх віншаваннях фразы тыпу: адыходзячы год быў выдатны, але новы будзе яшчэ лепш, — цытуе Віктара Бабарыку яго прэс-служба. — Бо мы гэтага вартыя! Мы паводзілі сябе вельмі добра ў адыходзячым годзе, і Дзед Мароз заахвочвае наш рух да добрага і светлага. Цуд прыходзіць да цудоўных людзей. А такіх сярод беларусаў — большасць! Шчасця, дабра і веры ў сябе!

СУСТРЭЧА

# ПЯТЬ «ГЕНИАЛЬНЫХ» СОВЕТОВ

**15 декабря Александр Лукашенко провел встречу с активом Витебской области. Общение отметилось тем, что местные власти рискнули озвучить ряд жалоб. Какой же была реакция правителя? Рассказываем — коротко.**

**О ремонте больницы: «С шапкой ходите по области»**

Витебская областная больница построена в 1980-х годах и с тех пор практически капитально не ремонтировалась. В областном бюджете средств на это нет.

Реакция Лукашенко (цитируется по его пресс-службе):

— Будем напрягаться и закупать оборудование. А палаты, внешний вид — это уже сделаете сами. Упирайтесь, напрягайтесь в сельском хозяйстве, промышленности, собирайте деньги, с шапкой ходите по области, но это хотя бы сделайте.

**Об обновлении концертной базы «Славянского базара»: «У вас что, нет этих (других) проблем?»**

Когда Лукашенко сказали, что необходимо обновить концертную базу «Славянского базара», правитель, судя по сообщению его пресс-службы, перевел разговор на другую тему:

— Мы всегда говорим, что у нас проблема с кадрами, зарплатами. У вас что, нет этих проблем?

**О кадровых проблемах в медицине: «Обязательно отработка»**

Лукашенко рассказали о дефиците кадров в медучреждениях малых населенных пунктов. В ответ он посоветовал удерживать молодых специалистов, в том числе, с использованием административного ресурса:

— Обязательно отработка. В наше время просто держать, удержать, не пускать — тяжело. Если тебя государство подготовило, а ты решил куда-то переехать или уехать, отработай или заплати и езжай. Тогда подумают тысячу раз.

**О нехватке жилья: «Мы иногда искусственно создаем проблему»**

Была затронута и тема жилищного строительства. В ответ правитель посоветовал бороться с «жуликами»:

— Как я убедился, мы иногда искусственно создаем проблему в жилищном строительстве, отдав это жуликам, особенно в Минске и областных центрах.

**О низких зарплатах в культуре: нецелесообразно содержать большие библиотеки на селе**

Правителю доложили, что самые низкие зарплаты в области в библиотеках, в школах искусств. Его реакция: отдельно содержать большие библиотеки в сельской местности нецелесообразно.

**О модернизации в агропромышленном комплексе: «Доставайте из-под заборов все и восстанавливайте»**

Материально-техническая база агропромышленного комплекса остро нуждается в модернизации. В области уменьшилось число используемой сельхозтехники: тракторов — на 10%, комбайнов — на 30%.

Совет Лукашенко: — Поэтому доставайте из-под заборов все, что может передвигаться и работать, и восстанавливайте.

...

Занавес.

**gazetaby.info**

РАЗВАЖАННІ

# «... ДА ІХ У ЛЮБЫ МОМАНТ МОЖА ПАСТУКАЦЬ ГУБАЗІК»

**Кіраўнік Беларусі 16 снежня правёў вялікую нараду з эканамічным блокам ўрада, казалі аб санкцыях і спробах ім супрацьстаяць.**

Праўда, гэтым тэмы не скончыліся, шмат было сказана пра тое, што і сярод кіраўніцтва краіны хапае людзей з «антыдзяржаўнымі поглядамі», Лукашэнка нават прапаноўваў ім ехаць у Польшчу і Літву і ўладкоўвацца да апазіцыі.

Пра вынікі нарады Филин пагаварыў з палітолагам Валерыем Карбалевічам.

— Галоўнае з пачутага — гэта спроба мабілізацыі дзяржаўнага апарата на рашэнне задач, якія стаяць перад рэжымам: процідзеянне санкцый, правядзенне рэферэндуму, спроба растлумачыць сітуацыю наменклатуры. Усім гэтым дзяржава займаецца ўжо больш за год, нічога асаблівага я не ўбачыў, — адзначае эксперт.

**Чаму Лукашэнка стаў гаварыць аб тым, што сярод чыноўнікаў шмат тых, хто яго не падтрымлівае?**

— На самай справе — гэта адлюстраванне рэальнасці. Як бы Лукашэнка ні казаў, што яго праціўнікі — гэта «купка адмарозкаў», але высвятляецца, што нават на кіруючых пасадах дзяржаўных прадпрыемстваў ёсць яго апаненты. Гэта разбурае ўсю карціну, якую выбудоўвае дзяржаўная прапаганда паўтара года.

Па-другое, гэта папярэджанне, што ён за ўсім сочыць, усё ведае, каб ніхто не спрабаваў выступаць супраць яго.

Разам з тым, былі новыя тэзісы адноснага таго, што не трэба звальняць тых, хто падпісаўся супраць яго на мінулых выбарах. У пэўным сэнсе — гэта змена тону і стылістыкі.

Магчыма, Лукашэнка спрабуе гуляць у лібералa, а дзеянні сілавікоў як быццам праходзяць не з ягонай ініцыятывы. У нешта падобнае гуляў Сталін, калі крытыкаваў тых, хто перагнуў палку калектывізацыі, абвінавачваў Яжова ў тым, што занадта шмат людзей расстраляў і арыштаваў.

Да гэтага часу сэнс пасланняў з боку ўладаў быў наступным: вас білі, вас катавалі, і мы будзем далей так рабіць. Тыя ж вялікія тэрміны ў «справе Ціханоўскага» арыентаваныя на тое, каб запалохаць людзей. А сённяшнія заявы трохі ў іншы бок.

Атрымліваецца, ёсць і кіраўнікі з «антыдзяржаўнай пазіцыяй», але не трэба звальняць тых, хто падпісаўся супраць яго. Гэта частая з'ява, калі ў выступах Лукашэнка суседнічаюць ўзаемавыключальныя тэзісы. Чыноўнікі пасля такога не разумеюць, што ж ім рабіць: бегчы ці стаяць.

Як любы аўтарытарны кіраўнік, Лукашэнка нікому не давярае, усіх падазрае. Невыпадкова адбываюцца ўсе гэтыя кадравыя змены. Вельмі характэрна, што ён лічыць: свой пункт гледжання можна мець толькі ў Літве, але не ў Беларусі.

**Жывуць цяпер у страху прадстаўнікі ўлады?**

— Страхам назваць гэта, можа, няправільна, але ёсць перманентны стрэс. З аднаго боку, людзі чакаюць, што да іх у любы момант можа пастукаць ГУБАЗіК (не важна па якой прычыне, у гэтай сістэме ніхто не абаронены), а з другога — баяцца, што ў выпадку змены ўлады стануць адказнымі, усё ж нешта падпісвалі, кагосьці звальнялі.

Стрэс з двух бакоў. Яны бачаць, што тыя чыноўнікі, якія сышлі з пасадаў публічна, галоўныя ворагі і здраднікі, іх судзяць, садзяць у турму, але і не забываюць аб магчымых наступствах сваіх дзеянняў.

**"Філін"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенeнская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 28.12.2021 у 16.35**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.